# ПРАВА НА ВОЛЮ

№18
Верасень 1998

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"





# У абарону Андрэя Клімава

7 верасьня 1998 г. у Мінску адбыўся пікет, прысьвечаны 33-годзьдзю Андрэя Клімава — бізьнесьмена і дэпутата Вярхоўнага Савета РБ 13-га скліканьня, які з 11 лютага 1998 г знаходзіцца ў мінскім СІЗА. Ініцыятарам пікета выступіла жонка А.Клімава Тацьцяна Леановіч. На пікеце была маці А.Клімава Ала Пятроўна Клімава, а таксама — яго дзеці і сябры.

У пікеце прымалі ўдзел актывісты грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97» і праваабарончага цэнтру «Вясна-96». Удзельнікі мітынгу трымалі ў руках плакаты: «Свабоду Андрэю Клімаву!», «Свабоду палітвязьням», «Вясна-96» — супраць палітычных рэпрэсіяў». Быў на пікеце і сьвяточны торт са сьвечкамі.

Асаблівую ўвагу міліцыі прыцягнуў рыфмаваны плакат: «Шклоўскі жлоб усю ўладу загроб, хамаў — у палаты. Праўдалюбцаў — за краты». Падпалкоўнік міліцыі сказаў: «Вы ня маеце права трымаць гэты плакат!» Ён патлумачыў, што гэтыя словы абражаюць гонар і годнасьць прэзідэнта РБ.

Пікет праходзіў пад кантролем міліцыі і намесьніка старшыні гарвыканкама, лідэра камуністаў Віктара Чыкіна.

Да Віктара Чыкіна зьвярталіся шматлікія людзі з пытаньнямі: «Чаму нам так кепска жывецца?» Прадстаўнік улады адказваў: «Вы хацелі дэмакратыі? Вы яе атрымалі!» У выпадках, калі В.Чыкін ня мог канкрэтна адказаць людзям, ён задаваў свае пытаньні накшталт: «А вы ведаеце, чаму Біл Клінтан сьпіць з Монікай Левінскі?»

Нагадаем, што Андрэй Клімаў быў арыштаваны 11 лютага 1998 года. Ен зьяўляўся членам сьпецыяльнай парламенцкай камісіі па прававой ацэнцы дзейнасьці прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі. Акрамя таго, А.Клімаў узначальваў Акцыянернае таварыства «Андрэй Клімаў і К°», якое займалася будаўніцтвам.

Дэпутат Вярхоўнага Савета А.Клімаў рашуча выступаў супраць палітыкі, якую праводзіў прэзідэнт РБ А.Лукашэнка. Аб гэтым сьведчаць словы А.Клімава на пленарным паседжаньні Другой сесіі Вярхоўнага Савета РБ 13-га скліканьня: «Узурпатар Лукашэнка па-ранейшаму будзе чыніць беззаконьне ў нашай краіне».

Пасьля рэферэндума 1996 г. пачаліся масіраваныя праверкі прадпрымальніцкай дзейнасьці А.Клімава. Каб знайсьці кампрамат на бізьнесьмена, былі задзейнічаныя супрацоўнікі КДБ, МУС і адміністрацыі прэзідэнта.

Арышт Клімава адбыўся на другі дзень пасьля паседжаньня сьпецыяльнай камісіі, членам якой ён зьяўляўся. Падчас працы камісіі было падрыхтаванае заключэньне аб дастатковай юрыдычнай падставе для пачатку палітычнай працэдуры імпічменту прэзідэнта А. Лукашэнкі.

Раніцай 11 лютага 1998 г. прадпрымальніка А.Клімава арыштавалі, і па сёньняшні дзень ён знаходзіцца ў СІЗА г. Мінска. Яму інкрымінуюць «крадзёж па папярэдняй змове» (арт. 91, ч. 4 КК РБ) і правядзеньне ў 1995 годзе будаўнічых работ «без належна афармленага дазволу» (арт.151, ч.2 КК РБ ).

Знаходзячыся ў СІЗА, шляхам сухой галадоўкі А.Клімаў спрабаваў пратэставаць супраць парушэньня Канстытуцыі 1994 г., па якой ён мае права дэпутацкай недатыкальнасьці. Станоўчых вынікаў гэта не дало.

18 верасьня 1998 г. суд Маскоўскага раёну г. Мінска другі раз разглядзеў хадайніцтва аб зьмяненьні меры стрыманьня Андрэя Клімава ў сувязі са станам здароўя, якое значна пагоршылася за час знаходжаньня за кратамі. Судзьдзя Аляксандр Валькові не палічыў мэтазгодным вызваліць Андрэя Клімава з-пад варты.

**Інфармацыйны адзьдзел «Вясны-96»**

# Хроніка

***16 верасьня*** **ў Мінску па ініцыятыве ТБМ (Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны) адбыўся мітынг у абарону беларускай нацыянальнай адукацыі і ў падтрымку ідэі стварэньня беларускамоўнага нацыянальнага ўніверсітэту.**

***16 верасьня*** **ў Мінску на тэрыторыі ўніверсітэцкага гарадка Службай аховы БДУ былі затрыманыя актывісты «Хартыі-97» — Сяргей Кур'ян і Галіна Юрына, якія раздавалі студэнтам бюлетэнь прэс-цэнтра грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97». Затрыманых адвялі ў службовае памяшканьне аховы і выклікалі міліцыю. С.Кур'яна і Г.Юрыну даставілі ў РАУС Маскоўскага раёну г.Мінска, дзе ім вярнулі незаконна канфіскаваныя ахоўнікамі газеты і адпусьцілі.**

***16 верасьня*** **палітсавет Аб'яднанай Грамадзянскай партыі выступіў з заявай, у якой запатрабаваў ад уладаў РБ захаваньня правоў і свабод грамадзянаў, прадугледжаных Канстытуцыяй краіны. У заяве гаворыцца аб неадкладнай адмене пастановы ўрада ад 10 ліпеня 1998 г., згодна з якой у 5-10 разоў павялічыліся стаўкі пошлінаў за падачу скаргаў на непаўнамоцныя дзеяньні чыноўнікаў. Сёньня шматлікія грамадзяне з-за адсутнасьці сродкаў пазбаўленыя магчымасьці зьвярнуцца ў суд.**

***17 верасьня*** **ў Мінску адбыўся пікет, прысьвечаны 33-годзьдзю Андрэя Клімава — бізьнесьмена і дэпутата Вярхоўнага Савета РБ 13-га скліканьня, які з 11 лютага 1998 г. знаходзіцца ў мінскім СІЗА. Ініцыятарам пікета выступіла жонка А.Клімава Тацьцяна Леановіч. На пікеце была маці А.Клімава Ала Пятроўна Клімава, а таксама — ягоныя дзеці і сябры. Прымалі ўдзел актывісты грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97» і праваабарончага цэнтру «Вясна-96».**

*(працяг на стар.6)*

# Жонка і дзеці Андрэя Клімава адчуваюць моцны ўціск з боку ўладаў

Жонка зьняволенага Тацьцяна Эдуардаўна Леановіч удзячная сябрам, якія не пакінулі сям'ю Клімавых.

Што ж датычыць самога спадара Клімава, дык ён ня так даўно пакінуў турэмную клініку, дзе ляжаў з сардэчным захворваньнем. Дактары рэкамендавалі яму рэбілітацыйны перыяд тэрмінам у два месяцы, але «аднаўленьне» здароўя Андрэя Клімава адбываецца ў камеры.




Апошнім часам зьмяніўся кіраўнік сьледчай групы па справе Клімава — ім стаў капітан Алёшкін. Зьмяніўся і адвакат — цяпер бізьнесьмена абараняе В.Біруля.

Сям'я арыштаванага адчувае на сабе ўсё мацнейшы ўціск з боку ўладаў. Жонцы чатыры месяцы не дазвалялі спатканняў. Пасьля такога працяглага перапынку Тацьцяна Леановіч змагла сустрэцца з мужам толькі ў ягоны дзень нараджэньня. Сьледчы загадаў апячатаць кватэру Клімавых. Такім чынам, сям'я засталася практычна без прытулку, а таксама без зімовых рэчаў. Па словах Тацьцяны Леановіч, пасьля падачы ў пракуратуру скаргі адзін з адказных супрацоўнікаў пракуратуры сказаў адвакату ў прыватнай размове: «І чаго яны баяцца? Зьдзіралі б тую пячатку і жылі сабе».

Адвакат Клімава Вольга Біруля паведаміла аб тым, што дзейнічае судова-будаўнічая экспертыза, якая павінна вызначыць аб'ёмы выкананых будаўнічых работ, праверыць правільнасьць выкарыстаньня ўкладзеных у будаўніцтва сродкаў і г.д.

Паводле беларускага заканадаўства, сьледства можа цягнуцца ня больш за паўтары гады.

**Алесь ЛЯЛЕКА**

# У чым абвінавачваюць Віньнікаву?



Як паведаміў адзін з адвакатаў Тамары Віньнікавай Гары Паганяйла, нельга пакуль сказаць дакладна, колькі яшчэ былая «банкір №1» прабудзе пад хатнім арыштам.

Справа па-ранейшаму знаходзіцца ў стадыі папярэдняга расьсьледаваньня, якое цягнецца ўжо амаль два гады.

Зараз Тамара Дзьмітрыеўна праходзіць рэабілітацыйна-аднаўленчы перыяд пасьля перанесенай аперацыі. Дыягназ, пастаўлены Віньнікавай дактарамі, адвакаты дамовіліся пакуль трымаць у таямніцы.

Наперадзе Віньнікаву чакае шэраг вочных ставак, азнаямленьне з матэрыяламі справы. Сьледчыя працуюць над удакладненьнем абвінавачваньня. Як яно фармулюецца на сёньняшні дзень, Гары Пятровіч паведаміць ня можа — гэта забараняе дадзеная падпіска аб нераспаўсюджваньні сьледчай інфармацыі. Гэта выглядае досыць дзіўна — ужо што-што, а фармуліроўка абвінавачваньня дзяржавай сваёй грамадзянкі ніяк ня можа быць таямніцай сьледства.

Справы іншых банкіраў, арыштаваных прыкладна ў адзін час з Тамарай Віньнікавай, дагэтуль разглядаюцца паасобку. Тэндэнцыі да аб'яднаньня іх са «справай Віньнікавай» пакуль што няма.

На Віньнікаву робіцца страшэнны ўціск з мэтай прымусіць яе адмовіцца ад удзелу ў абароне адваката Гары Паганяйла. Але ў гэтым накірунку пазіцыя Тамары Віньнікавай застаецца непахіснай.

Сёньня кантакт з Віньнікавай для журналістаў немагчымы. Хаця Тамара Дзьмітрыеўна дала падпіску ўсяго толькі аб нераспаўсюджваньні інфармацыі аб сьледстве, зразумела, што яна пазбаўленая магчымасьці пагаварыць з прэсай нават на прыватныя тэмы. Кожны званок па яе тэлефоне кантралюецца людзьмі, якія ажыцьцяўляюць хатні арышт.

Турма ва ўласнай кватэры сёньня для Віньнікавай — адзіная рэчаіснасьць.

**Ц.П.**



# «Пасланьне» Уладзіміра Кудзінава не дайшло да моладзі

Справа Уладзіміра Кудзінава — тыповы прыклад расправы над чалавекам, які не пабаяўся супрацьстаяць дыктатарскай уладзе.

Прадпрымальнік і дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, Уладзімір Кудзінаў з лютага 1997 г. знаходзіцца за кратамі.

19 верасьня 1998 г. у Уладзіміра Кудзінава адбылося чарговае доўгатэрміновае спатканьне са сваякамі. На сустрэчу прыехалі дзьве непаўналетнія дачкі У. Кудзінава — Наташа і Зоя, а таксама іх маці — Зоя Міхайлаўна Кудзінава. Але начальнік установы УЖ-15/1 Бахур Іван Іванавіч загадаў прапусьціць толькі дзяцей. Зое Міхайлаўне Кудзінавай начальнік калоніі заявіў: «Вы ніколі ў мяне не атрымаеце спатканьня. У пячонках вы ў мяне сядзіце — вы і ваш Кудзінаў». Зоя Міхайлаўна адмовілася адпускаць непаўналетніх дзяцей на тэрыторыю калоніі без суправаджэньня дарослых. Яна сказала начальніку калоніі: «Я толькі патрабую выкананьня закона аб правах дзіцяці».

Зоя Міхаўлаўна была вымушаная прывесьці хворую 75-гадовую маці У.Кудзінава і накіраваць яе разам з дзецьмі на тэрыторыю калоніі.

Напярэдадні гэтага адміністрацыя калоніі патрабавала ад У.Кудзінава адмовіцца ад доўгатэрміновага спатканьня са сваякамі.

Рэакцыя адміністрацыі калоніі была выкліканая тым, што незадоўга да гэтага ў незалежных сродках масавай інфармацыі ў чарговы раз прайшло паведамленьне аб палітвязьні Уладзіміры Кудзінаве.



*Зоя Кудзінава з дочкамі Зояй і Наташай.*

Уладзімір Кудзінаў напісаў «Пасланьньне да беларускай моладзі», у якім сцьвярджаў, што дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ня вечны. Ён паспрабаваў перадаць пасланьне на волю праз сваіх дзяцей, але на кантрольна-прапускным пункце рукапіс канфіскавалі.

Пасьля спробы перадачы на волю «Пасланьня да беларускай моладзі» у мінскай калоніі УЖ 15/1 пагоршыліся ўмовы ўтрыманьня зьняволенага Уладзіміра Кудзінава.

Да Зоі Міхайлаўны Кудзінавай паступіў ананімны званок. Ей паведамілі аб тым, што 21 верасьня, пасьля спатканьня з дзецьмі, Уладзіміра Кудзінава зьбілі і кінулі ў карцэр.

24 верасьня Зоя Міхайлаўна Кудзінава прыехала з мястэчка Івацэвічы ў Мінск, каб сустрэцца з начальнікам атрада №11 УЖ 15/1, у якім утрымліваецца У.Кудзінаў. Яна паведаміла начальніку атрада пра тэлефонны званок і прасіла, каб ёй паказалі У.Кудзінава хаця б здалёк, каб пераканацца, што з ім ўсё ўпарадку.

Начальнік атрада параіў З.М. Кудзінавай зьвярнуцца да в.а. начальніка УЖ 15/1, які адмовіў у яе просьбе.

Начальнік атрада падцьвердзіў інфармацыю аб тым, што У.Кудзінаў адхілены ад працы, і пры гэтым заявіў: «Чым большую хвалю вы будзеце падымаць у прэсе, тым горш будзе Кудзінаву».

**ІНФАРМАЦЫЙНЫ АДЗЬДЗЕЛ «ВЯСНЫ-96»**

# Даўгавая яма. Ці выберацца з яе прыватны натарыят?

Беларусь — краіна цудаў. Тут, калі меркаваць па дзеяньнях уладаў, самыя «хуліганістыя», схільныя да «масавых беспарадкаў», прафесары, самыя «нячэсныя» журналісты і прадпрымальнікі. Апошнім часам выявілася нешта большае. Аказваецца, у краіне існуе цэлая прафесія, якой займаюцца суцэльна «незаконапаслухмяныя» людзі. І што цікава: людзі гэтыя — прафесійныя і кваліфікаваныя юрысты. Дакладней — натарыўсы. Прычым — ня ўсе, а толькі натарыўсы прыватныя.

Канец верасьня стаўся для прадстаўнікоў гэтай прафесіі «судным часам». 21 верасьня адразу ў Гомелі і Мінску распачаліся судовыя працэсы супраць прыватных натарыўсаў Людмілы Васільевай і Сьвятланы Казлоўскай. Ініцыятары абодвух судоў — мясцовыя органы пракуратуры. У якасьці істца выступае сама дзяржава з усімі яе інстытутамі ўлады. Менавіта дзяржаве натарыўсы, на думку пракуратуры, завінаваціліся вялікія сумы грошай: Л. Васільева — 1 мільярд 115 мільёнаў 868 тысячаў беларускіх рублёў, С. Казлоўская — 97 мільёнаў 592 тысячы 40 рублёў.

Гэта толькі «першыя ластаўкі». Такія ж перспектывы — у астатніх калегаў гэтых двух адказчыкаў. Усяго ў Беларусі налічвалася яшчэ нядаўна 110 прыватных натарыўсаў. З пачаткам судовых працэсаў каля дваццаці з іх здалі дзяржаве свае ліцэнзіі. Калі іншыя прыблізна 90 сьпецыялістаў-прыватнікаў ня сплоцяць дзяржаве сотні мільёнаў, а то і мільярды рублёў добраахвотна, іх чакаюць суды і пакараньні. А сплаціць яны ня змогуць: такіх грошай у ніводнага прыватнага натарыўса проста няма.

Дзяржаўныя структуры выконваюць указ прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі №289 ад 27 траўня 1998 года. Дэкрэт мае доўгую назву: «Аб некаторых пытаньнях звароту ў даход дзяржавы беспадстаўна набытай дзяржаўнай пошліны». Згодна з гэтым дакументам, больш за сотню беларускіх грамадзянаў аднойчы прачнуліся ранкам «даўжнікамі». Як гэта здарылася?

## «Кароткі курс» гісторыі прыватнага натарыяту

Яго ўзьнікненьне ў Беларусі было выклікана эканамічнай неабходнасьцю. У 1990-1992 гадах зьявіліся новыя віды натарыяльных дзеяньняў, значна павялічылася колькасьць зьдзелак паміж грамадзянамі і арганізацыямі, зьмянілася, стаўшы больш складаным, іхняе афармленьне. У дзяржаўных натарыяльных канторах узьніклі чэргі, а разам з імі — і пэўная напружанасьць. Дзеля зручнасьці ў абслугоўваньні насельніцтва 26 лістапада 1992 года па прапанове Савета Міністраў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову «Аб арганізацыі ў Рэспубліцы Беларусь прыватнай натарыяльнай практыкі». Некаторыя зьмены і дапаўненьні ўносіліся ў гэтыя нарматыўны акт 18 студзеня 1994 г. Выконваючы гэтыя пастановы, прыняў адпаведныя захады і ўрад (пастановы Савета Міністраў №20 ад. 15.01.93 г. і №126 ад 5.03.94 г.). На падставе ўсіх гэтых рашэньняў парламенту і ўрада Міністэрствы фінансаў і юстыцыі распрацавалі «Палажэньне аб парадку выдачы ліцэнзіі на права занятку прыватнай натарыяльнай дзейнасьцю». Гэты дакумент урэгуляваў усе пытаньні прыватнай натарыяльнай практыкі, у тым ліку і пытаньні аплаты працы прыватных сьпецыялістаў галіны.

Натарыўсы спраўна плацілі ўсе падаткі ў бюджэт. Падаткаабкладаньне рэгулявалі закон «Аб падаходным падатку з грамадзянаў» і метадычныя ўказаньні Дзяржаўнага падатковага камітэту. Кожны квартал прыватныя натарыўсы здавалі справаздачныя дакументы ў падатковыя інсьпекцыі сваіх раёнаў, якія гэтыя справаздачы правяралі і толькі потым прымалі. Такім чынам, за дзеяньнямі прыватных натарыўсаў усе гэтыя гады існаваў належны кантроль, да іх не ўзьнікала сур'ёзных пытаньняў з боку кантрольных органаў, а ўся дзейнасьць рэгламентавалася канкрэтнымі прававымі актамі.

Як распавеў мне былы прэзідэнт Беларускай натарыяльнай палаты Мікалай Кузьміч (не так даўно ён сышоў з гэтае пасады), прынцыпы дзейнасьці ў Беларусі прыватнага натарыята грунтаваліся на сусьветным вопыце. Вельмі шмат было запазычана з практыкі натарыяту Германіі, Расіі, Польшчы, Украіны. Беларуская натарыяльная палата ўвесь час падтрымлівала шчыльную сувязь з замежнымі калегамі.

І дзяржаўныя, і прыватныя натарыўсы ў сваёй прафесійнай працы кіруюцца аднымі і тымі ж законамі і інструкцыямі. Гэта закон «Аб дзяржаўным натарыяце» (1974 г), інструкцыя аб зьдзяйсьненьні натарыяльных дзеяньняў, інструктыўныя пісьмы Мінюста і ўпраўленьняў юстыцыі. Прыватныя натарыўсы маюць права выконваць амаль усе тыя ж дзеяньні, што і дзяржаўныя, за выключэньнем трох, якія тычацца права на спадчыну, уласнасьці на маёмасьць пры сьмерці аднаго з супругаў у шлюбе і некаторых пытаньняў з нерухомай маёмасьцю. Але, як тлумачаць самі прыватныя сьпецыялісты, гэта не з-за нейкіх перадузятых адносінаў да іх, а з прычыны неабходнасьці захоўваць архівы па такіх справах у дзяржструктурах. Ва ўсім астатнім прыватныя канторы выступаюць як прадстаўнікі дзяржавы.

## Эксьперымент у новым вымярэньні

З 1993 г. прыватны натарыят дзейнічае ў якасьці эксьперыменту. І гэты статус за ім захаваўся — у тым сэнсе, што з законам РБ «Аб натарыяце» у 1997 г. годзе раптам пачаліся праблемы. Законапраект прадугледжваў існаваньне ў краіне паралельна як дзяржаўнага, так і недзяржаўнага натарыяту. Ён агаворваў усе ўмовы такой сістэмы. Закон быў прыняты ў першым чытаньні Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі 9 студзеня 1997 г. Аднак ён быў адазваны, і ўзамен закону зьявіўся дэкрэт прэзідэнта А.Лукашэнкі №12 ад 3.05.97 г. Дэкрэт вызначаў новыя правілы спагнаньня пошліны і падаткаў з прыватных натарыўсаў (хаця гэта справа ў кампетэнцыі Саўміна і шэрагу міністэрстваў).

Больш за год Беларуская натарыяльная палата даводзіла, што прымяняць нормы дэкрэта №12 да мінулых гадоў дзейнасьці натарыўсаў (1993-1997 гг.) незаконна. Як вядома, ня толькі законы, але і дэкрэты ня могуць мець зваротнай сілы. Гэта пярэчыць артыкулу 104 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (у тым ліку — з усімі папраўкамі 1996 г.). Але органы пракуратуры ў 1997 г.) ужо пачыналі перадаваць зыскі аб спагнаньні грошай у суды.

Цэлы год пытаньне аб правамоцнасьці такіх спагнаньняў разглядалася ў Вышэйшым гаспадарчым судзе, а 23 студзеня 1998 г. — у Канстытуцыйным судзе РБ. Канстытуцыйны суд прапанаваў кампетэнтным органам дзяржаўнае ўлады разабрацца з пытаньнем пераразьмеркаваньня пошліны «заднім чыслом», зыходзячы, прынамсі, з адказнасьці тых структураў, якія раней выпрацоўвалі ўмовы эксьперыменту з прыватным



натарыятам. Яшчэ тады, у пачатку года, было на ўзроўні Канстатуцыйнага суда пастаўленае пытаньне: якая ж можа быць віна саміх натарыўсаў, што прыйшлі працаваць у прыватны сектар па прапанове дзяржавы, і на яе, дзяржавы, умовах? Хіба нехта мог уявіць, што на пятым годзе іхняе працы нарматыўныя акты, што гэтую працу рэгламентуюць, будуць прызнаныя не зусім законнымі, прычым — прызнаныя адным чалавекам?

27 траўня 1998 г. прыняты Указ №289 прэзідэнта Лукашэнкі, які абавязвае кожнага прыватнага натарыўса да канца бягучага і на працягу наступнага, 1999 г. вярнуць у дзяржбюджэт пошліну як «беспадстаўна атрыманую» у 1995-1997 гг. Вярнуць дабраахвотна альбо ў судовым парадку. Указам прадугледжаныя правілы індэксацыі (з улікам індэксу спажывецкіх коштаў) у памеры ад 140 да 640 працэнтаў. Але ўказам не бярэцца ў разьлік тое, што натарыўсы панесьлі расходы, уносячы ў бюджэт падаткі памерам да 55 працэнтаў ад прыбытку. А таксама — арэнда памяшканьняў ды іншыя расходы, зьвязаныя з абслугоўваньнем насельніцтва. Атрымліваецца, што апошнія тры гады гэтыя сьпецыялісты, нічога ня ведаючы, працавалі сабе на страту.

Пачатак спагнаньняў грошай праз суды азначае пачатак канца ў Беларусі прыватнага натарыяту ўвогуле.

### Каму трэба «капаць яму іншаму»?

Каму ўжо дакладна ня трэба, дык гэта насельніцтву. Бо гэтая «даўгавая яміна» — падкоп пад кожнага з нас. Спатрэбіцца заверыць якую копію дакумента ці атрымаць пасьведчаньне — прастаіш цэлы дзень у калідоры дзяржканторы.

Напрошваецца адзінае тлумачэньне — ўлады імкнуцца прыдушыць выгадную з усіх бакоў прыватную службу эканамічным «ланцугом», каб заткнуць дзіркі ў бюджэце за кошт невінаватых людзей. Мае месца і фактар ідэалагічнага кшталту: усё, што недзяржаўнае, у прасавецкай «вярхушкі» уладаў лічыцца «нячэсным». Усе «павінны быць» аднолькавымі, нібы ў адным калгасе...

### Суды

Вернемся ў залы судовых паседжаньняў. Справа ў Гомелі супраць Людмілы Васільевай адкладзеная — суд вярнуў яе ў пракуратуру з-за неадпаведнасьці справы шэрагу законаў (нормы матэрыяльнага права, Грамадзянска-працэсуальны кодэкс, Закон «Аб пракуратуры»). Адкладзенае пакуль і слуханьне справы Сьвятланы Казлоўскай у судзе Мінскага раёну: запатрабаваныя дадатковыя дакументы з падатковай інспекцыі. Цікава, што Мінскі райсуд адхіліў хадайніцтва абаронцы Л. Казлоўскай Юрыя Плахіна, які, спасылаючыся на рашэньне Канстытуцыйнага Суда РБ, прапанаваў прыцягнуць у якасьці адказчыкаў Саўмін, Мінфін, Мінюст і Дзяржаўны падатковы камітэт.

Зыскі на прыватных натарыўсаў перададзеныя ў суды і ў іншых гарадах Беларусі: у Мазыры, Салігорску, Віцебску і інш.

З 1 кастрычніка зьмяніліся і тарыфы на паслугі прыватных натарыўсаў. У залежнасьці ад віду натарыяльнай аперацыі адна паслуга каштуе даражэй на 30-100 тысячаў рублёў. Яшчэ адно нowaўвядзеньне ўладаў — усю пошліну цалкам прыватны сьпецыяліст аддае дзяржаве, што ўжо пачало адбівацца на заробатнай плаце супрацоўнікаў прыватных натарыяльных кантораў. Пасьля 15 лістапада мяркуецца перагляд Мінюстам новых ставак дзяржпошлінаў і коштаў паслугаў для насельніцтва. Але, як лічыць кіраўніцтва Беларускай натарыяльнай палаты, надзеі на зьніжэньне гэтых ставак і коштаў амаль няма. Значыць, выжыць прыватнаму натарыяту наўрад ці дадуць.

**Таццяна СЬНІТКО**

# Рэгістрацыю спыніць! Прадпрымальнікаў — «ператрахнуць»!..

З 18 верасьня па загаду прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі ў краіне прыпынена на няпэўны час рэгістрацыя і перарэгістрацыя суб'ектаў гаспадараньня. Гэта мера будзе дзейнічаць да «асобнага распараджэньня» кіраўніка дзяржавы.

За апошнія два гады гэта ўжо другая агульнарэспубліканская праверка дзейнасьці прыватных прадпрымальнікаў (менавіта іх загад прэзідэнта датычыцца ў першую чаргу). У траўні 1996 г. Лукашэнка выдаў указ №208 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньню дзейнасьці суб'ектаў гаспадараньня», у выніку чаго перарэгістрацыя фірмаў і прадпрыемстваў цягнулася прыблізна год. Было зьліквідавана 124 тысячы суб'ектаў гаспадараньня, у тым ліку спыненая дзейнасьць 37 тысячаў юрыдычных асобаў (амаль усе — недзяржаўнай формы ўласнасьці) і 87 тысячаў прадпрымальнікаў без утварэньня юрыдычнай асобы. Гэта склала 45,5 працэнтаў ад агульнай колькасьці прыватных фірмаў, якія знаходзіліся на падатковым уліку на 1 чэрвеня 1996 г. Гэта — лічбы афіцыйных дадзеных.

Цяперашняе прыпыненьне рэгістрацыі да перарэгістрацыі, на думку ўладаў, стане эфектыўнай мерай у барацьбе з махлярствам, ухіленьнем ад падаткаў, узьнікненьнем так званых «прадпрыемстваў-аднадзёнак». Як паведамілі ў прэсцэнтры Дзяржаўнага падатковага камітэту, паводле дадзеных на 1 жніўня 1998 г, 39 тысячаў прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасьці (17 працэнтаў ад агульнай іх колькасьці) не працуюць, яшчэ 9 тысячаў (3,9 працэнтаў) зьяўляюцца стратнымі, а больш за 5 тысячаў (2,2 працэнты) маюць запазычанасьць перад дзяржбюджэтам. Гаворка ідзе толькі пра тыя прадпрыемствы, што прайшлі ранейшую (1996 г.) перарэгістрацыю.

У Дзяржаўным падатковым камітэце лічаць, што «у наяўнасьці недасканаласьць дзеючай сістэмы дзяржаўнай рэгістрацыі», працэдура, якой, хутчэй за ўсё, у хуткім часе стане больш жорсткай і складанай. Па выніках падатковых праверак больш за 8 тысячаў суб'ектаў гаспадараньня сёньня, згодна з указам прэзідэнта №208, падлягаюць ліквідацыі. Падатковыя службы дадаткова налічылі ў іх 956,8 мільярды рублёў запазычанасьці ў дзяржбюджэт. Спагнаць удалося 38,7 млн.

Што і казаць, махлярствы ды ўтойваньні падаткаў — гэта не вітаецца ў ніводнай краіне сьвету. Тым ня менш, беларускія афіцыйныя зьвесткі выглядаюць няпоўнымі без уліку некаторых сьпецыфічных асаблівасьцяў краіны сёньня. Не сакрэт, што запазычанасьці перад дзяржавай у нас вельмі проста могуць налічыць і «заднім чыслом» — так ужо было і з прыватнымі натарыўсамі, і з дробнымі прадпрымальнікамі, што гандлююць на рынках. Другая сумная зьява — усеагульная залежнасьць ад выканаўчай галіны ўлады, якая вядзе да адкрытага «беспредела» у адносінах прадпрымальнікаў.

Мы ведаем манеру ўлады пампезна сьвяткаваць розныя зручныя для ідэалогіі Лукашэнкі даты: кожная фірма атрымлівае ветлівую просьбу-загад пералічыць на сьвята немалую суму грошай. Напрыклад, прадпрымальнікі з Камароўскага рынку распавялі мне, што толькі сёлета і толькі на адзін лукашэнкаўскі «дзень незалежнасьці» 3 ліпеня мусілі адлічыць мінскім уладам 8 тысячаў долараў. І гэта — ня ўся «Камароўка», а ўсяго яе частка (шэраг кіёскаў на оптавым рынку).

Знаёмыя бізнэсмены скардзіліся некалькі месяцаў таму, што падчас фінансавых праверак з імі праводзілі гутарку аб «пустым бюджэце». У гэты бюджэт, казалі, трэба ахвяраваць, «колькі не шкада». А калі шкада — правяральшчыкі абяцалі, што знойдуць хоць якое-небудзь «парушэньне».

За новым этапам перарэгістрацыі, відавочна, стаіць палітыка. Гэта яскрава дэманструе сам прэзідэнт Лукашэнка. У пачатку кастрычніка ён выступіў на зьезьдзе прадпрымальнікаў, дзе заявіў: «Я не прашу вашай падтрымкі, але заклікаю вас быць па-за палітыкай». Гэта азначае толькі адно: прыхаваную пагрозу тым, хто будзе нейкім чынам падтрымліваць апазіцыйныя сілы. Некалі ж «пасьмелі» Андрэй Клімаў, Уладзімір Кудзінаў, кіраўнік ЗАТ «Расьсьвет» Васіль Старавойтаў — яны за кратамі; Аляксандр Пупейка — стаў палітычным эмігрантам.

Чыноўнікі, якія выконваюць загад Лукашэнкі, ды журналісты з афіцыйных СМІ лічаць цяперашнюю перарэгістрацыю суб'ектаў гаспадараньня, «перашкодай на шляху нядобрасумленных дзялкоў, якія ня хочуць працаваць цывілізавана, наносяць страты дзяржаве і ствараюць у вачах грамадскасьці негатыўны вобраз прадпрымальніка» («Зьвязда», 25 верасьня 1998 г.). Негатыўны імідж стварае ўсім прадпрымальнікам сам прэзідэнт Лукашэнка. Раней ён вызначыў гэтых людзей як «вшивых блох». А цяпер? Можа быць, прэзідэнт лічыць інакш?

Наладжваючы эканамічныя сувязі з Украінай, Лукашэнка заявіў падчас візіту ў Крым, што будзе ўсталёўваць адносіны «бяз гэтага жульля». А 8 кастрычніка, пасьля сустрэчы са смаленскім губернатарам А. Прохаравым узгадаў пра «жульлё» зноў: "Які крызіс?.. Давайце ўвесь гэты накіп скінем і пачнем працаваць». Дык ці ня мэта татальнага пераўліку — не спыніць махляроў, а — «скінуць накіп» тых, каму рэжым не падабаецца?

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# ВОЛЯ І ЗДРАДА

Па-ранейшаму ня рухаецца з месца пытаньне аб рэабілітацыі «першых дысідэнтаў» — сяброў Саюза Вызваленьня Беларусі — арганізацыі маладых беларускіх патрыётаў, разгромленай НКУС у 1947 годзе.

Адразу пасьля перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі два дзясяткі навагрдскіх хлопцаў пажадалі бачыць Беларусь вольнай ня толькі ад фашызму, але і ад сталінізму. Змаганьне юнакоў супраць дзяржаўнага монстра не пайшло далей прапаганды беларускай гісторыі і некалькіх напісаных ад рукі антысавецкіх улётак. Але і гэтага хапіла, каб скалечыць маладыя жыцьці.

Сучасьнікі ведалі аб іх яшчэ меней, чым мы, бо прысуд ваеннага трыбунала МУС выносіўся ва ўмовах строгай сакрэтнасьці.

Падчас нямецкай акупацыі Наваградчына стала цэнтрам антыфашысцкага і антысавецкага супраціву. «Ня трэба нам ні немцаў, ні Саветаў, абы вучыць дзяцей і ня блытаць іх у палітыку», — так разважалі настаўнікі ваенных гадоў. Але «асабісты», што прыйшлі ў Беларусь усьлед за Чырвоным войскам, з кляймом «здраднікаў Радзімы» выправілі ў Сібір практычна ўсю перажыўшую акупацыю беларускую інтэлігенцыю. Усьлед за настаўнікамі пацягнуліся па этапах іх вучні — сябры Саюза Беларускай Моладзі. «Пашчасьціла» тым, каго мабілізавалі ў Чырвонае войска, у складзе якога яны, не шкадуючы крыві, вызвалялі ад гітлераўцаў Еўропу. На Радзіме ж іх, пераможцаў, чакала расчараваньне: тут ужо поўным ходам ішла калектывізацыя, у школах гучала расейская мова, штоноч зьнікалі сябры і сваякі. І не было ніякай надзеі на волю...

Гэтыя маладыя франтавікі сталі ядром Саюза Вызваленьня Беларусі. Вымушаныя пайсьці ў Наваградскую вячэрнюю школу (атрыманую падчас вайны адукацыю ім «не залічылі»), яны пазнаёміліся з толькі што выдадзенай кнігай А.Фадзеева «Маладая гвардыя». На ўзор камсамольскай стварылі сваю падпольную беларускую антысавецкую арганізацыю.

Саюз быў створаны па ініцыятыве Генадзя Казака. Той падчас акупацыі быў вывезены ў Нямеччыну, працаваў на заводзе, але здолеў уцячы і дабраўся да Навагрудка. Пасьля ваяваў у Чырвоным войску. Былі ў Саюзе Вызваленьня Беларусі і іншыя франтавікі — Алесь Усюкевіч, Пятрусь Дземянчук, малады паэт Самсон Пярловіч, Мікола Капціловіч. Баявыя ўзнагароды меў Міхась Кожыч. Таксама ў аргкамітэт увайшоў выпускнік настаўніцкай семінарыі Кастусь Рамановіч, які ўжо адседзеў тэрмін за ўдзел у Саюзе Беларускай Моладзі.

Юнакі распрацавалі статут і праграму СВБ. Іх галоўнай мэтай было «бачыць Беларусь вольнай і незалежнай». Ад самога пачатку яны «адмовіліся ад палітычных забойстваў» і вырашылі «весьці асьветніцкаю працу сярод насельніцтва супраць сталінскай палітыкі».

Вершы, напісаныя Самсонам Пярловічам, хадзілі па руках у якасьці ўлётак:

*І ноччу, і днём*
*падхалімы скуголяць*
*Пра росквіт жыцьця,*
*пра свабоду.*
*Ад гэтай «свабоды»*
*стогне зямля...*

Падчас вобыскаў у Генадзя Казака і яшчэ некалькіх чалавек была знойдзеная зброя. Гэта значна пагоршыла іх справы: хлопцаў абвінавацілі ў сувязях са сьпецслужбамі Амерыкі, хаця знайсьці зброю ў той час было нескладана, бо навокал яе было вельмі шмат.

Сьледчыя НКУС тады атрымлівалі зарплату ў залежнасьці ад «выпрацоўкі», яны імкнуліся выкрыць больш «падпольных тэрарыстычных арганізацыяў».

У Саюзе Вызваленьня Беларусі меліся ўсе прыкметы арганізаванай структуры: аргкамітэт, упаўнаважаныя прадстаўнікі ў раёнах, грашовыя складкі, пячатка з выявай Пагоні. Сябры СВБ старанна захоўвалі пратаколы ўсіх сваіх паседжаньняў, таму недахопу ў «доказах» не было.

30 мая 1947 года ў дзьве гадзіны ночы вайскоўцамі і людзьмі ў цывільным была захопленая кватэра, дзе здымалі пакой Міхась Кожыч, Пятрусь Дземянчук і Алесь Усюкевіч. У хату ўварвалася чалавек дзесяць аўтаматчыкаў, хлопцаў паставілі тварамі да сьцяны. Ператрэслі ўсю хату, знайшлі сярод школьных падручнікаў ад рукі напісаную праграму СВБ. Бліжэй да ранку дазволілі апранацца, і ў кайданках пацягнулі пад дуламі аўтаматаў у памяшканьне МУС. Тут ужо былі Генадзь Казак, Кастусь Рамановіч і іншыя. Праз некалькі гадзінаў пад канвоем іх везьлі ў Баранавічы ў «Крывое Кола» — самую жудасную ў Беларусі сталінскую турму. «Ну што, забойцы?» — так іх сустрэлі на парозе гэтай «фабрыкі пакутаў».

Падчас працэсу ўдзельнікі СВБ адмовіліся ад адвакатаў. З усіх абвінавачваньняў прызналі толькі антысавецкую агітацыю, наяўнасьць праграмы, пошук новых сяброў. Атрымаўшы прысуд — ад 8 да 25 гадоў — нават павесялелі: скончылася, нарэшце, жудаснае чаканьне.

Генадзь Казак і яшчэ некалькі чалавек загінулі ў лагерах. Астатнія пражылі жыцьцё з пячаткай «здраднікаў», увесь час адчуваючы недавер і насьцярожанае стаўленьне да сябе. Большасьць так і не вярнулася ў Беларусь.

У першыя гады адноўленай беларускай дзяржаўнасьці былыя сябры Саюза Вызваленьня Беларусі ня раз і ня два зьвярталіся ў дзяржаўныя органы з патрабаваньнем перагляду пытаньня аб рэабілітацыі. І раз за разам атрымлівалі адмову. Падстава — у 1947 годзе яны імкнуліся «прымусова адзьдзяліць Беларусь ад СССР», а, значыць, зьдзейснілі злачынства, якому няма дараваньня.

У самыя цяжкія гады для Беларусі знаходзіліся людзі, якія спрабавалі выступаць супраць таталітарнага рэжыму, а гэта сьведчыць аб тым, што ў беларусаў ёсьць добрая перспектыва ў будучым.

**Ц.ПАЛЫНСКАЯ**

# Хроніка

*(Пачатак на стар. 1)*

***18 верасьня*** **суд Маскоўскага раёну г. Мінска другі раз рагледзеў хадайніцтва аб зьмяненьні меры стрыманьня Андрэя Клімава ў сувязі са станам здароўя, якое значна пагоршылася за час знаходжаньня за кратамі. Судзьдзя Аляксандр Валькові не палічыў мэтазгодным вызваліць Андрэя Клімава з-пад варты.**

***19 верасьня*** **1998 г. у зьняволенага дэпутата і бізнесьмена Уладзіміра Кудзінава адбылося чарговае доўгатэрміновае спатканьне са сваякамі ў калоніі УЖ-15/1. На спатканьні былі дзьве непаўналетнія дачкі У. Кудзінава — Наташа і Зоя, праз якіх зьняволены спрабаваў перадаць на волю «Пасланьне да беларускай моладзі». Але на кантрольна-прапускным пункце пасланьне канфіскавалі.**

***21 верасьня*** **за спробу перадачы на волю «Пасланьня да беларускай моладзі» У.Кудзінаў быў зьбіты і кінуты ў карцэр.**

***21 верасьня*** **ў Гомелі і Мінску адначасова распачаліся судовыя працэсы супраць прыватных натарыўсаў Людмілы Васільевай і Тацьцяны Казлоўскай. У якасьці істца выступала дзяржава. Ад прыватных натарыўсаў патрабуюць выплаты вялікіх сумаў грошай. Ад Л.Васільевай — 1 млрд. 115 млн. 868 тыс. бел. рублёў; С. Казлоўскай — 97 млн. 592 тыс. рублёў. Дзяржаўныя стуктуры выконваюць указ прэзідэнта «Аб некаторых пытаньнях звароту ў даход дзяржавы беспадстаўна набытай дзяржаўнай пошліны».**

***23 верасьня*** **скончыла сваю працу ў Інстытуце мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук экспертная камісія ў складзе 11 вядомых навукоўцаў-філолагаў, якім Вышэйшы гаспадарчы суд даручыў вызначыць: ці парушае агульнапрынятыя нормы правапісу газета «Наша Ніва». Навукоўцы выказаліся на карысьць газеты. Праз гэты судовы працэс улады імкнуцца зачыніць адно з нешматлікіх незалежных выданьняў.**

***26 верасьня*** **адбылося паседжаньне ЦК Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі, на якім быў разгледжаны шэраг пытаньняў. ЦК прыняў заявы і рэзалюцыі: «Аб падтрымцы агульнанацыянальнай акцыі прафсаюзаў 4-5 лістапада», «Аб праявах фашызму і антысемітызму ў Рэспубліцы Беларусь».**

# Выбары ў Славакіі

Славакія, што мы ведаем пра гэтую краіну? Тое, што паўстала яна пасьля распаду супольнай Чэхаславакіі, што пануе ў ёй Меч'яр, які нечым падобны на нашага Лукашэнку. Гэта амаль і ўсе. 25 і 26 верасьня 1998 г. ў Славакіі адбываліся парламенцкія выбары, на якіх мне давялося быць назіральнікам. Таму я хацеў бы пазнаёміць нашых шаноўных чытачоў са сваімі назіраньнямі ды разважаньнямі аб сучасным жыцьці гэтай краіны, параўнаць сітуацыю, якая склалася там, з сітуацыяй на Беларусі.

### Незалежная Рэспубліка Славакія

У выніку «аксамітнай» рэвалюцыі ў 1989 годзе пачаўся хуткі працэс дэмакратызацыі грамадства, а разам з ім пачаўся распад агульнай Чэха- Славацкай дзяржавы. Цягнуўся ен чатыры гады і суправаджаўся бурнымі дэскусіямі ў парламенце.

1 студзеня 1993 года была абвешчаная незалежная Рэспубліка Славакія. Такім чынам, працэс распаду Чэха-Славацкай дзяржавы ажыцьцявіўся пасьлядоўна, і дэбаты ў парламенце не перарасьлі ў крывавую сварку паміж двума народамі.

### Меч'яр і К°

У 1993 годзе была прынятая Канстытуцыя Славакіі і адбыліся першыя парламенцкія выбары. Большасьць месцаў заняла кааліцыя з трох партыяў: HZGS, SNS, ZRS, якая прапанавала на пост прэм'ера Меч'яра. Класіфікаваць яго праграму па класічнай палітычнай сістэме вельмі цяжка, бо яна ўключала ў сябе элементы як камуністычных ідэяў, так і ідэяў нацыяналістычнага накірунку. Згодна з Канстытуцыяй Славакіі, прэзідэнт абіраецца парламентам, а пры яго адсутнасьці функцыі кіраўніка дзяржавы выконвае прэм'ер-міністр. Большасьць у парламенце складала кааліцыя Меч'яра, таму спробы апазіцыі правесьці выбары прэзідэнта ня мелі неабходнай падтрымкі. У выніку — прэм'ер Меч'яр пачаў выконваць функцыі прэзідэнта. На парламенцкіх выбарах меч'яраўскай кааліцыі супрацьстаялі тры буйныя апазыцыйныя партыі — SDC, SDL, MC.

### Выбары і кантроль за імі

Выбары ў Славакіі, згодна з Канстытуцыяй і Законам аб выбарах, адбываюцца па прадстаўнічай сістэме, іншымі словамі, па партыйных сьпісах. Каб атрымаць месцы ў парламенце, партыя павінна набраць 5% галасоў. У выбарах 25-26 верасьня ўдзельнічала 17 партыяў і кааліцыяў (кааліцыя магчымая, калі кожная з партыяў мае неабходныя 5% галасоў). Выбары адбываюцца два дні, але прадугледжанае права прагаласаваць да пачатку афіцыйнага дня выбараў па адпаведных дакументах. Браць удзел у галасаваньні маюць права грамадзяне Славакіі, якія дасягнулі 18 гадоў і маюць сталае месца жыхарства на тэрыторыі Славакіі. Галасаваньне славакаў, што знаходзяцца падчас галасаваньня за мяжой, законам не прадугледжанае. Уся тэрыторыя Славакіі падзеленая на выбарчыя камісіі паводле ейнага адміністратыўнага падзелу: акрэсовыя камісіі і краёвыя камісіі.

Цікавасьць уяўляе таксама парадак фарміраваньня выбарчых камісіяў, якія фарміруюцца з прадстаўнікоў палітычных партыяў, афіцыйна зарэгістраваных у Славакіі. Сістэма фарміраваньня камісіяў, калі ў іх бяруць удзел як прадстаўнікі апазіцыі так і партыяў кааліцыі Меч'яра, безумоўна, спрыяе захаваньню дэмакратычнасьці галасаваньня, прадухіляе магчымыя фальсіфікацыі і маніпуляцыі. Акрамя гэтага, Славацкая дэмакратычная кааліцыя наладзіла паралельны, двухузроўневы кантроль за выбарамі. Для назіраньня за ходам выбараў у Славакію прыбылі міжнародныя назіральнікі АБСЕ.

Назіраньне наладзіла і Міжнародная Хельсінская федэрацыя па правах чалавека. У межах яго мне і выпала працаваць у гэтыя лёсавырашальныя для Славакіі дні.

### Трэнчыньскі край, альбо пірог ад Меч'яра.

Уся група, што прыбыла для назіраньня ў Славакію, складалася з прадстаўнікоў розных краінаў: ЗША, Аўстрыі, Польшчы, Францыі, Расіі, Украіны і Беларусі. Групы назіральнікаў складаліся з двух асобаў. Колькасьць групаў адпавядала колькасьці краёў (кшталту нашых абласьцей). Кожная группа накіроўвалася ў сваю вобласьць-край, дзе іх чакаў калега-славак, у задачу якога ўваходзіла забесьпячэньне транспартам, сувязьзю, вырашэньне цякучых пытаньняў. Я трапіў у групу з Томасам Жэрардам — прадстаўніком Францыі. Разам з ім нам належала аб'ехаць амаль увесь Трэнчыньскі край і наведаць больш чым дваццаць выбарчых участкаў у весках і мястэчках. На месца прызначэньня, горад Трэнчын, мы выехалі ранкам 25 верасьня.

Трэнчыньскі край знаходзіцца на мяжы з Чэхіяй і заўсёды з'яўляўся апорай славацкага нацыяналізму, і яшчэ — радзімай Меч'ра. Так што чакаць можна было чаго заўгодна. Па прыбыцьці ў Трэнчын мы сустрэліся з нашым славацкім калегам па прозьвішчы Шуханэк і паехалі на наш першы выбарчы ўчастак. Паколькі мы ня мелі афіцыйнай акрэдытацыі на выбарах, мы ня мелі права прысутнічаць на ўчастках падчас падліку галасоў. У нашу задачу ўваходзіў агляд участкаў, кантроль за выкананьнем неабходных падчас галасаваньня працэдураў, апытаньні выбаршчыкаў па-за межамі ўчасткаў. Асаблівую ўвагу неабходна было зьвярнуць на тое, ці няма падчас галасаваньня на ўчастку вайскоўцаў альбо паліцыі, ці не вядзецца агітацыя за якога-небудзь кандыдата ці партыю. Трэба адзначыць, што камісіі рэагавалі на наша зьяўленьне ў асноўным станоўча і з цікавасьцю. Толькі на адным участку нас не пусьцілі, і яшчэ на двух адбыліся дробныя інцыдэнты, якія б я хутчэй назваў прыгодамі. Так, на адным з участкаў камісія доўга высьвятляла, хто мы такія, а потым чамусьці сфатаграфавалі нас. На другім — старшыня вясковай адміністрацыі нацкаваў на нас паліцыю за тое, што Томас сфатаграфаваў ня зьнятую са сьцяны ўчастка агітацыю. Паліцыя, высьветліўшы, што мы назіральнікі, прагнала ваяўнічага дзядулю-меч'яраўца. Але самы цікавы выпадак адбыўся ў маленькай славацкай вёсачцы Белуша. Калі мы зьявіліся на мясцовым участку, да нас адразу падбегла старшыня камісіі — вельмі жвавая жанчына з хітрым тварам. Пускаць нас яна не хацела, але пасьля настойлівага патрабаваньня Шуханэка пазваніла ў акрэсовую камісію. Там ёй параілі пусьціць нас, але жанчына зрабіла пасвойму: запрасіла ў пакой, пачаставала пірагом. Пачуўшы, што я з Беларусі, пачала разважаць аб тым, што народам часам патрэбная моцная рука і моцны справядлівы прэзідэнт. Ад гэтых словаў ясе меч'яраўскі пірог адразу здаўся салёным і нясмачным. Задаўшы гэтай прыхільніцы моцнай рукі некалькі пытаньняў, на якія яна адмовілася адказваць, мы паехалі далей. А ехаць нам давялося па «меч'яр хайвэй» — так у народзе называюць шашу, якую так стараўся здаць да выбараў Меч'яр, і на адкрыцце якой запрасіў Клаўдзію Шыфер. Рэкламныя шыльды з партрэтамі Меч'яра заклікалі: «Галасуй сэрцам». Праўда, шмат якія плакаты былі замаляваныя фарбай, а на іншых былі зробленыя розныя надпісы, кшталту «Асьцярожна: людажэр». Побач з надпісам «Галасуй сэрцам» нейкі жартаўнік дапісаў: «...Калі няма мазгоў». Цікава, ці мог бы наш «бацька» выставіць сваю фізіяномію на вялікіх плакатах, ды яшчэ на ўскрайку шашы, без аховы міліцыянтаў?

Увогуле сітуацыя ў Славакіі лепшая, чым у Беларусі. Аўтарытарны рэжым тут не пусьціў такіх глыбокіх каранёў, у грамадстве захаваліся досыць моцныя дэмакратычныя інстытуты, выходзіць апазіцыйная прэса, ёсьць незалежны тэлеканал «Маркіза». Славакію не прынялі ні ў Еўрасаюз, ні ў НАТА, краіна адстала ў сваім эканамічным разьвіцьці ад сваіх бліжэйшых суседзяў — Польшчы і Чэхіі. У славакаў было рэальнае і простае выйсьце з сітуацыі — выбары ў новы парламент, і яны скарысталі яго. У выбарах прыняло ўдзел больш за 70% выбаршчыкаў. У выніку апазіцыйныя дэмакратычныя партыі атрымалі 92 месцы ў парламенце супраць 57 месцаў меч'яраўскай кааліцыі. Гэта сапраўдная перамога. Славакаў чакаюць добрыя перамены і вяртаньне ў еўрапейскую сям'ю, куды ўвайшлі ўжо Польшча, Чэхія, Вугоршчына.

### Разьвітаньне

27 верасьня я пакідаю Славакію. Пакідаю з пачуцьцём радасьці за славакаў, спадзяваньнем, што горшае адыходзіць, саступаючы месца новаму, лепшаму. Я па-добраму зайздрошчу славакам. Яны маюць прыгожую краіну, гераічную гісторыю і самыя лепшыя перамены ў іх наперадзе. Крызіс улады і грамадства для іх мінуў.

Замак у Трэнчыне.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ**

Андрэй Мельнікаў

# Вандроўка за краты

Новы знаёмца ня так даўно сам быў прапарам у гэтым пагранатрадзе. Звольніўся, па яго словах, з-за канфлікту з Аляксандрам Пятровічам Лапо. Таму не спадабалася, што ягоны маладыя падначалены прыехаў на суботнік на ўласнай інамарцы, амаль такой жа, як і ў яго. Цяпер, перагаварыўшы з былымі калегамі, сукамернік мяркуе, што пасьля Шараметаўскай «вылазкі» Мінску трэба было тэрмінова паказаць пасьпяховую працу беларускіх пагранцоў на гэтым участку мяжы. Таму і прыехаў сьпецатрад з цэнтра з відэатэхнікай і папрацаваў «на карцінку», выкарыстаўшы больш-менш зручную для гэтага сітуацыю з гасьцямі ў двух жыхароў Лога. Зараз, па-мінімуму, «карцінкай» усё і скончыцца. А па-максімуму, пры зручных паказаньнях затрыманых і іх падатлівасьці, можна будзе з усёй шасьцёркі стварыць «міжнародную злачынную групу».

На прагулках бегаю, трохі займаюся фізкультурай, загараю. Абліваюся вадой з-пад крана. Пакуль «чайная галодоўка» абсалютна не замінае. У камеры, калі сусед ня паліць, займаюся практыкаваньнямі з элементамі йогі. На волі неяк на тое не хапала часу.

Ходка да дазнавацеляў — таксама неблагі шпацыр сярод соснаў і турбазаўскага краявіду. Пры вяртаньні даводзіцца пабачыць пабітага расіяніна. Невялікі, каржакаваты, сярэдніх гадоў, твар сіні ад пабояў. Кароткая стрыжка.

У сувязі з вялікай колькасьцю затрыманых, «гаўптвахтчыкаў» з ІВСа высяляюць. Сьпецыяльны будынак гаўптвахты ў частцы ёсьць.

Суседзі па ІВСу і ахоўнікі прадказваюць хуткае нашае з Алегам вызваленьне. На сумесных прагулках мы абмяркоўваем далейшыя дзеяньні. Як аўтастопам ці нават пешкам дабярэмся да яго Жодзішак, як абавязкова скупнёмся ў Віліі і ў вялікім стаўку за Алегавай хатай, як паедзем на «Бардаўскую восень» у Бельск. На першых прагулках яшчэ прыкідваем, дзе і як можна дагнаць магілёўскі аўтобус, што працягвае вандроўку па Беларускім Паазер'і. Пасьля гэты пункт адпадае, бо тургрупа, па маіх падліках, выйшла на фінішную прамую.

Трынаццатага ўвечары, калі ўжо пачынае цямнець, і да сканчэньня трохсутачнага законнага тэрміну затрыманьня застаюцца лічаныя гадзіны, канвой вядзе мяне на знаёмы трэці паверх. Сэрца радасна калоціцца: зараз вернуць пашпарт, вынесуць якое папярэджаньне, і — будзь вольным!

Старлей прымае мяне ў іншым, больш салідным кабінеце, дзе досыць чыста і тэлефон на стале. Навіна, па яго словах, «не совсем приятная»: рашэньнем выконваючай абавязкі пракурора Смаргонскага раёну Алы Кіндры супраць мяне заведзеная крымінальная справа за незаконнае перасячэньне дзяржаўнай мяжы. Аналагічная справа заведзеная і супраць Алега. «Вам просто не повезло», — канстатуе Шумейка.

Тут жа старлей праводзіць «шмон», але сьцелькі не вытрасае, ды пакідае ў кішэнях штармоўкі некалькі грыбоў, дае на подпіс пратакол вобыску, выдае на рукі яго копію.

На заканчэньне Шумейка цікавіцца, каму пазваніць, каб паведаміць пра маё затрыманьне. Даю тэлефоны газеты «Беларуская Маладзёжная», з якой сябрую і на якую спадзяюся, і аднаго з калег па рок-гурту. Сваякоў непакоіць пакуль не рашаюся: можа, вызваленьне адбу-дзецца ў хуткім часе, тады мая доўгая адсутнасьць будзе значыць для іх толькі некалькі зацягнутую вандроўку.

Ахоўнік, даведаўшыся пра заведзеньне крымінальных спраў па 80-м артыкуле супраць мяне і Алега, глядзіць на нашу будучыню досыць аптымістычна. На яго думку, справы «як заводзяцца, так і адводзяцца». Хочацца яму верыць.

Пятнаццатага жніўня Алега возяць на «место преступления». Мне Шумейка абяцае тое ж, але мой выезд адбываецца ў іншым напрамку і не са старлеем, а з прапарам. На ўжо знаёмым чырвоным «Масквічы» кацім у Смаргонь. Прапар кажа, што нарадзіўся адсюль недалёка. Заходнік. Са мной размаўляе па-беларуску. Я пасьля завядзеньня крымінальнай справы заявіў, што і паказаньні даваць буду пабеларуску.

Мяне прывозяць да будынка Смаргонскага суда, у якім у прысутнасьці старога, але даволі мажнага адваката-дзядка адбываецца мой допыт прапарам.

Распавядаю гісторыю пра тое, як зьбіраў грыбы ў памежным лесе і зразумеў, што трапіў на тэрыторыю Літвы толькі калі пабачыў на шашы аўтафуры.

Дзядок пасьміхаецца, кажа што такія справы кожны месяц адхіляюцца па дваццаць-трыццаць штук. Надзея, што так будзе і ў нас з Алегам мацнее.

На ІВСе становіцца вядома пра затрыманьне яшчэ адной групы ОРТ. Чакаецца іх дастаўка сюды. А, можа, нават яны ўжо на тэрыторыі часткі, бо суботнім ранкам нашы дазнавацелі прыбылі на работу, чаго, па словах ахоўнікаў, звычайна ў выходныя дні бывае. І варта, і затрыманыя ў Каменным Логу чакаюць тэлевізійшчыкаў з непрыхаванай зларадасьцю — некалькі тыдняў таму мена-віта тэлевізійны рэпартаж ОРТ значна разварушыў мірны тутэйшы быт. Месцы для, групы ОРТ на ІВС ёсьць.

Пад вечар шаснаццатага — чарговы візіт да Шумейкі. Заўважна стомлены рабочым днём, старлей прапануе мне азнаёміцца з «Постановлением о применении меры пресечения в виде заключения под стражу». Згодна з гэтай паперчынай, падпісанай старшым афіцэрам С. Шумейкам і зацьверджанай начальнікам адзьдзела в/ч 2044 падпалкоўнікам С.Страхам, падчас сьледства я буду знаходзіцца пад вартай у Гарадзенскай турме УЖ-15/СТ-1. Тое ж чакае і Алега.

На гэты раз старлей ня робіць спасылак на наша нешанцаваньне і чужую волю — пастанову зрабіў ён. Шумейка таксама прызнаецца, што па дадзеным мною тэлефонах не званіў.

Я даю свой аршанскі нумар, каб паведамілі сваякам і называю трох адвакатаў, якім магу даверыць сваю абарону. Тэлефонаў іх назваць не магу, бо ня памятаю. Старлей заўпэўнівае, што яны знойдуцца праз гарадскія калегіі адвакатаў.

Адчуваньне падвоенае. Трэба ехаць у горад, які я вельмі люблю, дзе шмат маіх сваякоў, сяброў і прыхільнікаў, але я еду ў турму, дзе як я даведаўся, яшчэ за польскім часам адбываў пакараньне таленавіты паэт Валянцін Таўлай. Там сядзеў спявак з папулярнага дуэта Аляксандр Ціхановіч і знаходзіўся Шарамет.

Чамусьці верыцца, што ўмовы там ня будуць горшымі, а заключэньне не працягнецца доўга.

Пакуль жа чаканьне свабоды зьмяняецца на чаканьне ад'езду ў Гародню.

Алег пасля паездкі з Шумейкам да мяжы галадоўку спыняе. Голад і адзінота ў камеры дарэмна не праходзяць — прачынаецца натхненьне. Мізула пачынае пісаць, прыдбаўшы недзе асадку. На любой зручнай паперы. Першы верш атрымліваецца філасофскім з грамадска-палітычным надзёнымм гучаньнем.

У мяне натхненьне, наадварот, устойліва зьнікла на ўвесь закратаваны перыяд.

Галадоўка пачынае сказвацца. Найперш прыходзіць адчуваньне холаду. Лежачы, спрабуеш падсоўваць між сабой і сцяной матрац ці складзеную коўдру. Зьявіўся тупы ныючы боль у нырках.

(Працяг. Пачатак у №№15-16,17)

(Працяг будзе).

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Рэдактар Алесь Бяляцкі.
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англійскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail: rights@v96.open.by

У нумары скарыстаны фотаздымкі У. Сапагова, малюнкі і здымкі з архіва Камітэта "Вясна-96"